# Ніва

БЕЛАРУСКІ ТЫДНЁВІК

№ 40 (919) ГОД XVIII БЕЛАСТОК 7 КАСТРЫЧНІКА 1973 г. ЦАНА 60 гр.





У дружнай сям'і і праца спорыцца. Гэтую народную праўду хочацца паўтарыць, калі гаворка мае пайсці пра дружны, працавіты і зжыты калектыў настаўнікаў падставовай школы ў Парцаве, што каля Бельска.

Прывялі мяне ў гэтую школу весткі з павятовага Бельска аб тым, што ў вёсцы вельмі добра працавала дзіцячая гарцэрская дружына нялагернага лета. А вядома, што галоўная заслуга ў актыўнасці вясковых дзяцей належыць настаўнікам. У Парцаве ў першую чаргу дала свае вынікі канкрэтная праца з гарцэрамі настаўніцы Аляксандры Авенка.

Нягледзячы на тое, што тры настаўніцы штодзень здалёк даязджаюць у школу, усе настаўнікі вядуць вялікую пазалекцыйную работу. Кожны настаўнік вядзе адну, а часам і некалькі школьных арганізацый. У школе асабліва добра працуюць гарцэрская і зуховая дружыны, якія з'яўляюцца душой усіх найважнейшых спраў школьнага жыцця, школьныя гурткі ПЦК, ТППР, школьнае самакіраванне, вучнёўская спулдзельня, гурток Лігі аховы прыроды і іншыя. Апрача таго, найбольш здольныя вучні займаюцца ў спецыялістычных гуртках па матэматыцы, мовах і ў гуртку тэхнічнага зацікаўлення. Вельмі шырока і пастаянна арганізуецца дапамога слабейшым вучням. Для іх настаўнікі, не лічачыся з гадзінамі працы, робяць дадатковыя заняткі, замацоўваюць за імі мацнейшых вучняў і такім чынам павышаюць агульны ўзровень ведаў сярод вучняў.

І вынікі такой працы добра відочныя. За апошнія шэсць гадоў, як памятае дырэктар школы Андрэй Хайнацкі, усе выпускнікі школы ішлі далей вучыцца, а пераважаючая большасць з іх — у сярэднія школы.

Вялікая работа вялася і вядзецца таксама з бацькамі. У мінулым годзе ў школе адбылося шэсць заняткаў з бацькамі, у час якіх на канкрэтных прыкладах абмяркоўвалі найбольш выхаваўчыя спосабы ўздзеяння на дзіця сям'і і школы. Сёлета школа плануе праводзіць заняткі не радзей чым раз у месяц, а абмяркоўвацца на іх будуць падставовыя тэмы з галіны псіхалогіі дзіцяці. Дзякуючы супрацоўніцтву школы з бацькамі, штогод усе выпускнікі школы звяртаюцца па параду ў выбары прафесіі ў выхаваўча-прафесіянальную парадню, якая існуе ў Бельску. У гэтай парадні вучням дапамагаюць вырашыць, якую прафесію найлепш выбраць, каб потым праца прыносіла задавальненне і давала максімальныя эфекты. „Вельмі карысная ўстанова", — падсумаваў нашу размову на гэтую тэму дырэктар школы.

Праца з бацькамі вядзецца і ў школьнай бібліятэцы. Праз дзяцей бацькі карыстаюцца школьным кніжным фондам, які складаецца з 3500 тамоў. Апрача таго, настаўніца, якая вядзе бібліятэку, рэгулярна папаўняе кніжныя запасы, пазычаючы яшчэ для сваіх чытачоў кніжкі з павятовай бібліятэкі.

Актыўна ўключаюцца настаўнікі і ў жыццё вёскі. Дырэктар школы Андрэй Хайнацкі з'яўляецца сакратаром гміннай партарганізацыі. Найбольш балючая цяпер справа ў вёсцы — адсутнасць якога-небудзь клуба ці святліцы. Адзі-

(Працяг на стар. 4)



**УСПАМІН З ДАЖЫНАК**

У аркестры ваеннай авіяцыі выступіла 8-асабовая група барабаншчыц. Гэта вучаніцы Медыцынскага ліцэя ў Познані.

Фота **А. Карпюка**




Мастацтва патрабуе для свайго росквіту прастору, святла, заахвочвання і зацікаўлення ім з боку грамадства. Цяпер, пасля доўгіх год чакання, усе гэтыя вымаганні беластоцкіх мастакоў цалкам споўнены. У раёне чыгуначнага вакзала, непадалёк вуліцы Ліпеньскага Маніфесту, Беластоцкае бюро мастацкіх выставак атрымала тры сучасныя, са шкла і алюмінію, павільёны. Яны добра ўпісваюцца ў наваколле, ствараюць прыемны архітэктурны ансамбль і вельмі функцыянальныя ўнутры. Іх праекціроўшчыку Г. Мачыдлоўскаму належацца заслужаныя словы прызнання.

— Гэты аб'ект заслугоўвае звання канцэрту добрай работы, — сцвердзіў кіраўнік аддзела культуры ВРН у Беластоку А. Гжэськевіч, адкрываючы 5 верасня г.г. новы выставачны комплекс. — Ён паўстаў у рэкордна кароткім часе, бо за чатыры месяцы. Будавалі яго не толькі рабочыя, але таксама ў грамадскім чыне іншыя беластаччане, моладзь, салдаты. Наша грамадства ўпэўнена, што новы аб'ект яшчэ больш заахвоціць мастакоў да інтэнсіўнага дзеяння і будзе сімвалам еднасці творцаў з рабочымі.

У павільёнах і на скверы перад імі экспануецца каля 300 прац: разьба ў дрэве, карціны, графіка, мастацкая тканіна і праекты мэблі.

Прыемна ўзбагачваюць экспазіцыю палотны беларускага мастака з Гродна В. Савіцкага, а таксама літоўскіх аўтараў з Коўна: мастачкі В. Юшкенені і скульптара В. Бартуліса.

Выстаўка „Вобраз—73", бо такую назву яна носіць, у асноўным прадстаўляе творы, якія паўсталі на двух сёлетніх пленерах „Навагруд— 73" і „Гайнаўка — 73". І пераважаюць сярод іх працы беластоцкіх мастакоў.

Уся экспазіцыя здзіўляе наведвальнікаў не толькі пладавітасцю твораў. Перш за ўсё цешыць тое, што ў кожнага з іх ёсць сваё індывідуальнае ўспрыняццё рэчаіснасці, уласны адметны почырк і ўлюбёныя вядучыя тэмы. Праўда, часам здараюцца і мастацкія няўдачы. Але іх нямнога.

А. Сакоўскі з Беластока сваёй лёгкай разьбе даў назву „Адно і другое або думка і натура", яго зямляк Е. Гры-

(Працяг на стар. 4)



*Агульны від на сквер і павільёны выстаўкі «Вобраз—73» у Беластоку.*









■ 16 верасня члены гуртка БГКТ у Старым Корніне на Гайнаўшчыне прынялі ўдзел у вясковым грамадскім чыне пры будове новай святліцы. Гайнаўскі аддзел БГКТ накіраваў у гэту вёску кінапераcоўку ГП і ўдзельнікі грамадскага чыну змаглі паглядзець савецкі фільм „Інспектар галоўнага розыску".

■ Гэты ж фільм быў паказаны апаратурай ГП у той жа дзень у Саках, Сухавольцах, Гурным і Махнатым. На дзень раней (15.IX.) у Новым Беразове выклікаў вялікае ўражанне сярод членаў і сімпатыкаў БГКТ савецкі фільм „Гадзіннік затрымаўся апоўначы".

■ Галоўнай тэмай пасяджэння прэзідыума бельскага аддзела БГКТ (адбылося 17 верасня) была падрыхтоўка справаздачнай кампаніі ў гуртках БГКТ. Членам прэзідыума і членам праўлення аддзела былі прыдзелены па два гурткі БГКТ, якім дапамогуць яны правесці справаздачныя сходы. Дапамогуць таксама гурткам БГКТ у справаздачнай кампаніі вучні Беларускага ліцэя ў Бельску. У сваіх родных вёсках многія з іх з'яўляюцца членамі гурткоў БГКТ, і таму дапамогуць у актуалізацыі членаў, у разбудове арганізацыі, у падрыхтоўцы матэрыялу на справаздачны сход, у мабілізацыі ўсіх членаў да культурна-асветнай працы і аплаты членскіх складчын за 1973 год. Да працы ў гуртках БГКТ заахвочвала ліцэістаў кіраўніцтва школы на чале з дырэктарам Аляксеем Карпюком, які з'яўляецца адначасова старшынёй бельскага аддзела БГКТ. Другім пунктам пасяджэння прэзідыума была справа каардынацыі ўдзелу мастацкіх калектываў у розных мерапрыемствах. Пастаноўлена, што такім каардынатарам будзе аддзел культуры прэзідыума ПРН, кіраўніком якога з'яўляецца член прэзідыума бельскага аддзела БГКТ Антаніна Куна, якая таксама выконвае функцыю старшыні камісіі культуры ГП БГКТ. Прэзідыум абмяркоўваў таксама надзённыя справы бельскага харавога калектыву БГКТ „Васілёчкі". У гэтым пасяджэнні прыняў удзел старшыня ГП Мікалай Самоцік.

■ 18 верасня па ініцыятыве членаў БГКТ у Старым Корніне адбыўся арганізацыйны сход фальклорнага харавога калектыву. У гэтай вёсцы любяць спяваць і ёсць людзі з добрымі галасамі.

■ 20 верасня ў Доме настаўніка ў Гайнаўцы адбылося спатканне вучняў мясцовага беларускага агульнаадукацыйнага ліцэя са старшынёй ГП БГКТ Мікалаем Самоцікам, галоўным рэдактарам „Нівы" Георгіем Валкавыцкім і журналістам „Нівы" Мікалаем Гайдуком. Аб гэтым шырэй будзе напісана ў наступным нумары „Нівы". (мх)

# БЕЛАВЕЖА

ОРГАН ЛІТАРАТУРНА-МАСТАЦКАГА АБ'ЯДНАННЯ ПРЫ ГП БГКТ № 177


## ЭРОТЫК

ты ў словах
знаеш я крыўджу цябе
сапраўды
гэта нібы зіму зрабіць
з гусінага пуху
усядзешся
у гэтым крэсле
ідзі к чорту
з ачыма
ты мусіш,
глядзець на вусны
гэта маё крэсла
мой стол
і мой дыван
і не маеш права
сюды прыйсці
знаеш
я не павінна так
у тваім пакоі
мяне таксама няма
не будзе сустрэчы
гэтай станцыі
наогул няма

**З. Сачко**



* * *

Гнецца дрэў карагод у шалёным віруе танцы
Белавежская пушча ўскіпела акіянам магутных дрэваў
Я ашаломлены гэтай стыхіяй прыроды
Лаўлю апантанымі вачамі акапаліпсную візію
Тут разам зышліся на пір пекла і рай
Тут ёсць паэзія вечная і музыка касмічная
Тут душою я вольны арол тут ёсць зеніт
Прыроды богу кланяюся я язычніцкі нашчадак.

Ул. Гайдук



## ЖЫЦЦЁ

Жыццё,
як вадаспад,
не кончыцца ніколі.

Жыццё —
маладых мары,
якія спаўняюцца ў міг.



Жыццё —
вельмі хутка
спыняецца для адзінокага.

Жыццё —
гэта кветка
дуба магутнага.

Жыццё,
як нашы моды,
усё мяняецца.

**Ніна Гаўрылюк**

* * *

Быць можа ты і я
для чалавецтва факт малы
яно ідзе сабе
і нас не бачыць
але ў тым няма бяды
бо мы стварылі
мікрасвет свой
каханне наша мае краявід
і неба сіняе і сонца
і дрэвы ціхія і птушак
і радасць сумную сваю
і смутак радасны уласны
як хоча хто
заходзь у госці
глядзі
сядай за стол
частуйся
мы шчасцем хочам падзяліцца
так як вадою дзеліцца крыніца

**Алесь Барскі**



## У БЕЛАВЕЖЫ

Пацягнула мяне ў квартал 549, на паўстанцкую стаянку 1864 года. Хацеў дыхнуць гісторыяй роднага закутка: пахадзіць па слядах Кастусёвых дзецюкоў.

Раней я ніколі ў тым месцы не быў і ў маім уяўленні малявалася яно колерамі і пахамі жывічнага бору.

А сустрэў камарыны алёс.

Не да рамантыкі было паўстанцам у 1864 годзе. Зашываліся ў найменш прыкметную глухамань.

І трымала іх тут, мабыць, яшчэ адна сіла. Таксама празаічная. У цёмнай, балотнай вадзе ўбачыў я павольнае дыханне крыніцы.

**Юрка Зубрыцкі**

*Йду цграз зелле буйнае, дарогі скраем польнай,*
*за птушкамі йду дзікімі па лужах згніла-жоўтых,*
*бярозы жмені грошай сыплюць мне пад ногі,*
*у жылах бурляць струмені жаўцеючай вады.*
*Чаму капела змоўкла, дзе цвыркуной шукаць мне?*
*Ваду жывую піў бы, што ў шматках хмар застыла...*
*На белых рук сляпоту, якім астаўся дотык,*
*зляціць нясмела кропля, з якой падуе сумам.*
*Восень лісіцай рыжай прытаілася у яме...*
*Ці зялёную ветку мне яшчэ падасць хто,*
*ці чыйсць трывожны жэст ўстрымае адцвітанне?*
*Кулюся, бы лісток, які звалілі з дрэва.*

*Кастусь Бандарук*

## ТАНЕЦ

дзікія вочы за павекамі
прыплюшчанымі не да канца
нічога перад імі і
нічога за імі: пуста
толькі музыка выпаўняе
вушы сэрца рукі ўсюды яна
і гітары крык безасабовы
ўрываецца ўнутр душы
танец ногі самі скачуць
нечаканым тактам рукі
недзе вандруюць нечага шукаюць
губяць зноў шукаюць
названняў
радасць дзіцячая радасць
смяюцца губы вочы шчасцем смяюцца
сонная рэчаіснасць хутка ноч
праходзіць
так добра прытуляешся да
сваёй дзяўчыны заваяванай сёння
так добра ў павольным такце
нагам а рукі ўжо
нічога не шукаюць ужо не трэба
скончыўся танец

**Ірэна Баравік**



# ДЭБЮТ ДЭБЮТ



**Нарадзілася я 9 лістапада 1958 года ў сям'і селяніна ў вёсцы Баравыя. Вучылася ў школе ў Семяноўцы Гайнаўскага павету. Агульнаадукацыйны ліцэй у Гайнаўцы — вось сюды я пайшла ў гэтым годзе ў першы клас.**

**Міра Лукша**

## Сэрца

сэрца
вялікае людское сэрца
выдзерлі яго з грудзей
выпалілі белым жалезам
высcалі кроў з жылаў
жылы сухія ніткі шпурнулі на сметнік
сэрца пустую тыкву
палажылі сушыць з сокаў чалавецтва
йшлі салдаты
плач мільёнаў
слёзы напаілі сэрца
за імі цягнуўся хмарамі плач
ажыло
вялікае людское сэрца
ажыло

**Міра Лукша**

## Хутар

Хата пад вербамі, край луга. Вецер за пагоркамі, паўночна-заходні. Неба ў хмарах, разбрынялае. Хутар, на трэцім кіламетры ад Старой Камянкі. Там, дзе Відушчая гара.

Немцы падстрэлілі Чорнага Вітальда за гарою, Ваўчыцы не чапілі (цалавала ім боты)... Вербы старыя, не растуць. Увесну — зеленеюць, здалёку не відаць упартасці гэтай...

...Няпраўда, што кажуць пра Чорнага Вітальда і пра Ваўчыцу.

Вецер — палахлівы чалавек, які хоча даведацца. Заходзіць на нядоўга. Знікае, пусты... На гары знаёмы, і кажа, ніхто не чуў, за што падстрэлілі... Зыйшоў у напрамку паўночна-заходнім, у Старую Камянку.

Набрынялы жаданнем... Там, за Відушчай гарою, ні пажару, ні мярлінаў, нават вяселля. Або сваркі!

На хутары.

**Сакрат Яновіч**

**НА МЯСЦОВАЙ ГАВОРЦЫ**

## Нэ вэрнэцьця

Чом так жаль того што мынае?
— А час
нас
тягнэ
гэн
на
зоры,
Вымазуе з памяты
огніска што колісь горелі в лесі,
а в йіх — пэчаны картохлі.
Бічі з колопэнь,
Павутенне бабыного ліета
і ногі по колына ў болоты.
— Тэпэр
ужэ знаю
чом так жаль.
— Мінулэ
нэ вэрнэцьця.

**Іван Кірызюк**
(Крывяцічы)

Пачатак на стар. 1




гарчук сваю працу назваў „Пачатак жыцця“. Іх разцы імкнуліся выразіць складаныя людскія ўяўленні і думкі. Выраз адухатварэння ўласцівы разьбе Э. Лагоўскага з Варшавы „Капернік“. Многае можна прачытаць са скульптурнай групы „Неба“, якая належыць Т. Стасяк з Кракава. Арыгінальна спажыткаваў фактуру старога дрэва Е. В. Рудзінскі з Варшавы ў „Кветцы пушчы“. Цікавымі з'яўляюцца і іншыя працы.



*Павільёны прасторныя і функцыянальныя ўнутры.*



*Праект дзіцячага мэблевага гарнітуру Я. Янковяк.*

Аднак прынамсі здзіўляе, калі не абурае тое, што на выстаўцы апынуліся „кампазіцыі“ Ф. Марэка з Кракава, якой аўтар даў прэтэнзіянальную назву „Арыенціровачная дошка“. Бачым там манекен, апрануты ў пакамечаную і брудную адзежу, у руцэ яго — сетка, напоўненая каструлькамі, апалонікамі і т.п. Сядзіць ён на крэсле перад нацягнутым палатном, на якім намарана „1 — 1 = 0“ і іншыя брызголы. Нешта такое цяжка назваць мастацтвам.

Разнастайнасцю адчування колеру і багаццем мастацкага выразу вызначаюцца працы, пісаныя маслам. Прыцягваюць вока і выклікаюць настрой задумы рэалістычныя палотны Ю. Харытона і А. Вэльса. У іх адчуваецца наша родная Беласточчына, яе сціплая, але непаўторная прыгажосць. Непакояць расплываючыеся, цікавыя кампазіцыяй і каларыстыкай пейзажы на сумежжы дня і ночы, якія экспануе М. Валкавыцкі. С. Худзік прапануе цёмныя, вострыя і трывожныя палотны. Многа аўтараў шукае мастацкага выразу сваёй думкі ў абстракцыйных кампазіцыях. Людскія пакуты і парывы сімвалізуюць працы С. Рыбі, нашага рэдакцыйнага калегі. Я. Дэбіс паказвае сучасны задымлены го-



*Е. В. Рудзінскі сваю разьбу назваў «Кветкай пушчы».*

Пачатак на стар. 1

## Супольна для школы і вёскі

ны грамадскі будынак у вёсцы — школа. Але ён не можа, па зразумелых прычынах, быць прадстаўлены для дарослых. Вясковая моладзь прабавала арганізаваць будову святліцы грамадскім чынам. Сабралі нават 60 тысяч злотых, палічылі ахвотныя да працы рукі і звярнуліся ў павет за дапамогай. Аказалася, што можна было б будаваць святліцу, але на гэта патрэбна разы ў чатыры больш сродкаў. Вядома, вёска столькі грошай сабраць не магла. Аднак партарганізацыя не перастае шукаць спосабаў, каб неяк вырашыць гэтую справу. Нядаўна на тэму культурных патрэб вёскі адбыўся спецыяльны сход, дзе начальнік гміны інжынер Юрый Каліна згадзіўся з патрэбамі парцавян і паабяцаў гэтай справай заняцца. Моладзь пільна чакае рашэння гміны.

Быў час, калі ў вёсцы існаваў нядрэнны драматычны гурток. Але з-за адсутнасці клубу — распаўся. Ён, напэўна, адразу аджыў бы нанова, каб толькі знайшлося месца, дзе моладзь магла б збірацца. А настаўнікі, несумненна, дапамаглі б моладзі карысна і цікава арганізаваць свой вольны час.

Аб супрацоўніцтве школы з вёскай сведчыць добрая, адданая праца бацькоўскага камітэта. Сёлета школа набыла новага знешняга блеску: зроблена новая агароджа, адсвежаны будынак, упарадкавана школьная спартыўная пляцоўка. Школа выглядае сапраўды вельмі прыемна. І вялікая заслуга ў гэтым якраз бацькоўскага камітэта, які далажыў са свайго фонду на рамонт школы 15 тысяч злотых.

Як бачым, добрыя адносіны, сяброўства, узаемнае паважанне ўсіх людзей вёскі — бацькоў, настаўнікаў, моладзі — даюць найлепшыя вынікі ў працы і сужыцці.

Спадзяемся, што і святліца хутка будзе ў парцаўскай моладзі і служыць яна будзе ўсім жыхарам Парцава так, як яны цяпер аб гэтым марадь.

**Яніна Чэрнякевіч**

### Мала, але цікава

**0,0001 секунды!**

З такой дакладнасцю вымярае рэакцыю нервовай сістэмы на ўздзеянне розных раздражняльнікаў прыбор, сканструяваны венгерскімі інжынерамі. Ім можна карыстацца пры вызначэнні прафесійнай годнасці шафёраў, лётчыкаў і людзей іншых прафесій, дзе патрэбна вельмі хуткая рэакцыя.

### Кансультацыя юрыста

**Пытанне:** Нядаўна здох мой конь, які быў застрахаваны на 6000 зл. ПЗУ хоча мне выплаціць толькі 2400 зл. Ці гэта правільна?

**Адказ:** Сума, на якую ацэнены конь або іншая жывёла, з'яўляецца толькі нормай, ад якой аблічаецца велічыня страхоўкі. Сама страхоўка, якую атрымоўвае ўладальнік жывёлы, можа быць меншая, а часам і большая ад гэтай сумы. Распараджэнне Рады Міністраў, якое рэгулюе гэту справу, прадбачыць асноўныя нормы, паводле якіх выплачваюцца ўладальніку жывёлы грошы:

1. За каня ва ўзросце да 1 года — 30% сумы, на якую ён застрахаваны.
2. Ад 1 да трэцяга года — 80%
3. Ад 3 гадоў да 11 года — 120%
4. Ад 11 год да 17 года — 80%
5. Ад 17 год і вышэй — 40%.

Прадбачаны адхіленні ад гэтых норм, прыкладам, для жывёлы, прызначанай на гадоўлю і інш.

Звычайна абавязваюць вышэй пададзеныя нормы. Таму ў выпадку, да якога адносіцца пытанне — калі каню было 17 або больш год, адшкадаванне за каня было б правільным.

## Установа на васемнаццаці метрах

Начальнік і чатыры пісьманосцы з пошты ў Юшкавым Грудзе Беластоцкага павету маюць кепскія ўмовы да працы. На васемнаццаці квадратных метрах знаходзіцца пакойчык работнікаў пошты і пачакальня для наведвальнікаў. Калі самаход прывязе свежую прэсу, дык каб яе падзяліць, трэба раскласці... на падлозе. Няма іншага выхаду. Дарэчы, нялёгка прыходзіцца працаваць пісьманосцам не толькі таму. Раён іх абслугоўвання вельмі ж вялікі. Некаторыя з пісьманосцаў штодзень асільваюць па 20 і больш кіламетраў. Паштовыя пасылкі неабходна ж даручыць адрасату тэрмінова. Не прыгадзіліся прапановы пісьманосцаў наконт разбудовы пошты. Работнікі пошты дэкларавалі нават грамадскі чын. Дырэкцыя паштовай установы ў Беластоку дала адмоўны адказ. Аказваецца, няма на разбудову фінансавых сродкаў. Пісьманосцам надалей застаецца пералічваць газеты і часопісы на каленях. Адно толькі ўдалося работнікам пошты ў Юшкавым Грудзе. Установа неўзабаве атрымае новую агароджу з сеткі. (ця)




## Нашаніўская пара

### ЯДВІГІН Ш. — ЧАСТКА XI

**Алегарычныя навелы.** Несумненна, цікавая з'ява ў творчасці Ядвігіна Ш. Алегарычнай творчасцю займаўся пісьменнік у асноўным у першы перыяд свайго літаратурнага шляху. Найбольшая частка алегарычных твораў была напісана Ядвігіным Ш. у 1909—1911 гадах.

Асновай літаратурнага прыёму алегорыі з'яўляецца іншасказальнасць. Гаворачы найпрасцей, з алегорыяй у літаратуры маем дачыненне тады, калі пісьменнік чалавечыя характары, звычаёвасць, міжчалавечыя або міжкласавыя адносіны не паказвае непасрэдна, а толькі карыстаецца дадатковымі сродкамі. Найчасцей, паказваючы людзей, грамадства, палітычныя ўмовы, пісьменнікі карыстаюцца са свету звяроў, насякомых, раслін і іншых прыродных з'яў. Гэтыя „героі“ ўвасабляюць людзей. Прыём алегорыі шырока выступае ў народнай творчасці і ў рамантыкаў. Чаму народныя творцы, рамантыкі, і, зрэшты, пісьменнікі амаль усіх літаратурных плыняў выкарыстоўвалі алегорыю? Найчасцей рабілі гэта па дзвюх прычынах. Па-першае, з перакanання, што чалавек як неаддзельная частка прыроды мае ў гэтай прыродзе сваіх двайнікоў, свае падабенства і аналогію. Па-другое, пісьменнікі, якія жылі і дзейнічалі ў несправядлівых грамадскіх сістэмах, не заўсёды маглі адкрыта выказаць свае думкі, свае меркаванні і свае ацэнкі. З гэтай прычыны карысталіся алегорыяй.

Якая прычына выклікала да жыцця алегарычную творчасць Ядвігіна Ш? Перш за ўсё другая. Не значыць гэта аднак, што грамадска-палітычны змест усіх алегарычных апавяданняў пісьменніка настолькі востры, што ён не мог бы быць выяўлены ў рэалістычнай форме.

Да найважнейшых алегарычных навел Ядвігіна Ш. належаць: „Рабы“, „Падласенькі“, „Сакатушка“, „Гадунец“, „Сіло“, „Павук“, „Вяселле“. Асабняком стаіць апавяданне „Дуб Дзядуля“, у якім побач з алегарычнымі постацямі Бяды і Працы выступае рэальная постаць селяніна. Самастойную пазіцыю займае таксама апавяданне „Нагрода“, у якім выступаюць выключна людзі.

Найчасцейшымі героямі алегарычных твораў Ядвігіна Ш. з'яўляецца дамашняя жывёла, хатнія птушкі, дзікія птушкі і насякомыя. Да выключэнняў належыць апавяданне „Гадунец“, у якім героямі з'яўляюцца расліны — дрэвы.

Дыяпазон пытанняў, закранутых у алегарычных творах пісьменніка, даволі шырокі. Да асноўных пытанняў трэба аднесці заганную чалавечую звычаёвасць, эгаізм, нацыянальныя справы, класавыя адносіны і г.д.

Разглянем некаторыя з названых апавяданняў. На першы погляд, даволі нескладаную праблему закранае аўтар у апавяданні „Сакатушка“. Твор гэты мае звычаёва-бытавы характар. Няма ў ім палітычных алюзій. Можам яго нават аднесці ў нейкай ступені да твораў гуманістычных. Героі апавядання курыца-Сакатушка і певень-Дзярыгорла. Сакатушка садзіць на кучы яек пеўня, абяцаючы, што хутка вернецца. Наіўны певень, чакаючы Сакатушку, скончыў на яйках сваё жыццё. Калі шукаць у грамадскім жыцці адпаведнікаў герояў „Сакатушкі“, дык лёгка знойдзем жанчыну і мужчыну, або жонку і мужа. Можам гаварыць аб наяўнасці ў творы антыфемінічнага элемента.

Намнога глыбейшы падтэкст у апавяданнях „Рабы“ і „Падласенькі“. Цяжка канкрэтна сказаць, якую катэгорыю людзей мае тут на думцы аўтар. Аднак можна думаць, што адно і другое апавяданне адносіцца да беларускай інтэлігенцыі. „Героем“ першага твора з'яўляецца парсюк, які ўсё жыццё „смачна еў, смачна піў, смачна спаў“. Ніколі ён не задумоўваўся над характарам свайго жыцця. Ніколі ў ім не паяўляліся ноткі самакрытыцызму. І толькі ў момант смерці праводзіць ён самааналіз. Але і тады не знаходзіць у сваім жыцці нічога такога, за што мог бы сябе асудзіць, або пахваліць. Бо ніколі ён не зрабіў нічога злога і нічога добрага. Значыць, Рабы не асуджае сябе, але асуджае яго, несумненна, аўтар. Пісьменнік выразна супраць тых людзей, якія толькі ядуць, п'юць і спяць. Супраць тых, якія не добрыя і не дрэнныя. Ён супраць людзей без твару, без імкненняў, без ідэй. Ці заключаны ў апавяданні мала ганаровы „парсючы“ прыгавор быў скіраваны супраць беларускай чыноўніцкай інтэлігенцыі, якая сапраўды не адзначалася вялікай палкасцю і парывамі? Быць можа. Магчыма аднак, што абвінавачванне было накіравана супраць усіх тых людзей, якія сытасць, цішыню і мяртвеччыну лічаць найбольшым ідэалам жыцця. Такіх людзей, як вядома, ва ўсіх грамадствах і ва ўсіх сістэмах нямала.

# *ВЯЗУЧЫ*

Упершыню мне сказалі гэты камплімент у дзяцінстве, калі знявечанага выцягнулі з рэчкі:

— Відаць, вязучы. Іншы на яго месцы ўжо б даўно адубеў...

З таго часу мне і сапраўды пачало везці.

Ужо праз некалькі дзён я ўпаў з ясеня. На галаву свайго таварыша Федзькі. І скруціў яму шыю. А сабе толькі зламаў руку.

— Ён у цябе нарадзіўся ў сарочцы, — казалі суседзі бацьку. — Вязучы...

Нейк так выходзіла, што чым больш я ўваходзіў у гады, тым часцей да мяне з'яўлялася вязенне.

Аднойчы ў парку на мяне наскочылі трое. Знялі андатравую шапку, вытраслі з кажуха і ліквідавалі ўвесь ганарар, які я атрымаў за кніжку.

— Вам пашанцавала, — парадаваў мяне сусед. — Маглі яшчэ нейкім жалезам па галаве стукнуць або нож між рэбрамі ўстраміць.

Дарэчы. Пра рэбры.

Я ехаў таксі. Дарогаю падсела трое. Шафёр пятляў — круціў паміж машынамі, а тады ўляпіўся ў сустрэчнага МАЗа. Сам да бальніцы не дацягнуў. Тыя таксама дух спусцілі. А мне лекар кажа:

— Вы вязучы. Абышліся трыма рэбрамі і адною нагою...

Калі я вярнуўся з бальніцы, мне зноў пашанцавала — у пакоі на стале я застаў запіску:

„Вася! Не асуджай мяне.

Ты ведаеш, што я кахаю Андрэя.

Я пайшла ад цябе назаўсёды!"

Я ўздыхнуў з палёгкаю. Нарэшце. Сталася, як жадаў. Я ўжо даўно заўважыў, што выконваю функцыю слупа, да якога мая жонка прывязана, каб Андрэй ведаў, дзе яе шукаць.

Ды тут у пакой зайшоў таварыш.

— Бачыў тваю жонку. Стаіць у чарзе за шкарпеткамі для цябе. Прасіла перадаць, каб ты не перажываў. Тою запіскаю яна пажартавала...

Маю радасць як рукою зняло. Упершыню ў жыцці мне не пашанцавала...

**Яўген Дудар**




# НІЎКА



*— Грамадзянін суддзя, ён ужо колькі год бегае ад аліментаў.*

### АДЗІН РАЗ

На допыце ў следчага Васіль даказваў:

— Грамадзянін следчы, вы кажаце, што я жонку пабіў, ды я ўжо ўсё жыццё на ланцугу хаджу! Ці ж мог я так зрабіць?

— Але ж пабілі жонку?..

— Гэта толькі адзін раз было, бо ланцуг у маіх руках апынуўся, — апусціўшы вочы, ціха адказаў Васіль.

### АПРАЎДАЎСЯ

Рэгуліроўшчык пытае шафёра:

— Як вы маглі сесці за руль у п'яным стане?

— А я піў у кабіне, — адказаў той.

### ПРАКТЫЧНЫ

— З кім бы ты хацеў жыць, хлопчык, з таткам ці з мамаю? — пытаюць сынка бацькі, якія разлучаюцца.

— З тым, у каго застаецца тэлевізар, — адказвае сынок.

### СПЕЦ

Да асуджанага на смерць узломшчыка прыйшоў святар.

— Сын мой, спаведайся ў сваіх грахах, каб дзверы раю не засталіся закрытымі для цябе...

— Што? Ды няма такіх дзвярэй, якія я не мог бы адкрыць!

*Без слоў.*

## МІНІБАЙКІ

### НОВАЕ АМПЛУА ВАЎКА

У адным тэатры Ваўка назначылі на ролю авечкі.

Воўк завыў:

— Гэта не маё амплуа!

А яму адказваюць:

— Сам вінаваты! Навошта авечку з'еў?

Мараль: трэба есці так, каб і ваўкі былі сыты і авечкі цэлыя.

### ...НЕ ВЫСЯЧЭШ ТАПАРОМ

Пяро напісала, быццам яно вырасціла дзялянку леса пад высечку. Тапор прыскакаў на дзялянку — пуста. Махаў, махаў — нічога не высек.

Мараль: што напісана пяром, не высячэш тапаром.

**М. Азаў, У. Ціхвінскі**



**...Ён заскочыў у забягалаўку на хвілінку, а затрымаўся на пятнаццаць сутак.**

**...Яго дэвіз: з пустымі рукамі да мяне прыдзеш, з пустымі і пойдзеш.**

## Дапамог

Сымон на млыне працаваў
І там мукі мяшок украў.
Калі зямлю ахутаў змрок,
Выносіў злодзей той мяшок.
Нясе Сымон, ажно сапе,
Бо груз цяжкі, пяціпудовы.
— Каго нясеш ты на сабе? —
Пачуў ён нечаканы словы.
Сымон са страху мігам змок.
Спыніўся.
Чуе:
— Галубок!
Эге! І твой сябрук напіўся?
Вось я таксама ў сябрука
Пасмакаваў крыху піўка.
Ну-ну, нясі хутчэй яго...
Сымон начальніка свайго
Пазнаў, што не трымаўся на нагах.
І тут прапаў Сымонаў страх.
— Дык будзь здароў! І на руку...

Мараль? Сымон панёс далей муку.

**Міхась Гарнак**



### ЖОЎТАЯ ТРУБКА

— Знаеш, мамо, сцо я ў Пятла Загнібяды бацыў, — пачаў задыхана малы Крутанос. І, не чакаючы адказу, раскрыў таямніцу: — Тлубку.

— Трубку? Якую трубку?

— А такую зоўту-зоўту, пазаклуцвану ўсяляк...

— Гм... — мугікнула пад нос Крутаносіха.

— Ад самагоннага апарата! — сказаў аўтарытэтна Крутаносбацька.

Праз гадзіну пра загадкавую жоўтую трубку Пятра Загнібяды ведалі ўсе суседзі, праз паўдня — уся вёска. А праз дзень...

...Міліцыянер выйшаў з хаты старога Пятра злосны, разнерваваны, голасна лаючы невядома каго:

— І трэба ж было мне дзесяць кіламетраў целяпацца сюды, каб паглядзець на той, чорт бы яго ўзяў, пакручаны саксафон!..



### ПЕСНІ ПА ЗАЯЎКАХ

Па просьбе Марыі Анапюк і Яніны Дзмітрук з Грыгораўцаў Бельскага павету змяшчаем папулярную песню з рэпертуару Марылі Радовіч

## Diabeł i raj

**Jeszcze chodzą po świecie dziewczyny**
**bardzo smutne ze znanej przyczyny,**
**ale wy się, dziewczyny, nie dajcie...**
**tylko szczęścia szukajcie, szukajcie...**

**Dla was diabeł, dla was maj,**
**o patataj, patataj,**
**dla was anioł, dla was raj,**
**patataj, o patataj,**
**dla was diabeł, dla was raj,**
**o patataj, patataj!**

**Jeszcze będzie weselej i mądrzej,**
**młody księżyc usiądzie na kołdrze,**
**z nami będą się żenić, nas kochać,**
**a my piękne, w niebieskich pończochach...**

**Dla nas diabeł, dla nas maj,**
**o patataj, patataj,**
**dla nas anioł, dla nas raj,**
**patataj, o patataj,**
**dla nas diabeł, dla nas raj,**
**o patataj, patataj!**

**Jeszcze zadrze do góry się noska,**
**co to będzie za dzień, Matko Boska!**
**Jeszcze błysną obrączki na palcach,**
**jeszcze ruszy podłoga do tańca...**

**Dla nas diabeł, dla nas maj...**

**Przyjdzie dzień, gdy się słońce ocieli,**
**a my w górze, my w chmurze, my w bieli,**
**serenady zanucą nam do snu,**
**skarby świata znów rzucą nam do stóp.**

**Dla nas diabeł, dla nas maj,**
**o patataj, patataj,**
**dla nas anioł, dla nas raj,**
**patataj, o patataj,**
**dla nas diabeł, dla nas raj,**
**a nam w to graj!**





## КУРЁЗЫ

### ЯК ПАВЯРНУЎ, ТАК І ВЫЙШЛА

У славутага філосафа — сафіста Пратагора быў вучань Эватл. Палову аплаты за навучанне Эватл аддаваў адразу, а другую палову паабяцаў аддаць, як толькі выйграе першы судовы працэс. Навучанне закончылася. Ішлі месяцы, а Эватл яшчэ ні разу не прыняў удзелу ў судовым пасяджэнні. Доўг не быў звернуты. Тады Пратагор вырашыў сцягнуць сплату за навучанне праз суд.

Уступна ён звярнуўся да Эватла з такою дылемай:

„Калі ты выйграеш працэс, дык павінен заплаціць мне згодна з нашай умовай: калі ж ты гэты працэс прайграеш, дык павінен будзеш заплаціць згодна з вырашэннем суддзяў; але ты або выйграеш працэс, або прайграеш яго, і, значыць, усё роўна павінен заплаціць мне належную суму".

Такі довад не застрашыў вучня:

„Калі я выйграю працэс, дык я не павінен буду плаціць у выніку судовага рашэння; калі я прайграю працэс, дык не павінен буду плаціць у выніку нашай умовы; але я або выйграю працэс, або прайграю яго, і, значыць, ні пры якіх абставінах не павінен плаціць вымагаемых грошай".

### ШЛЯХ, ВЫМАШЧАНЫ ШТРАФАМІ

Джон Харгіс з горада Бун пабіўся аб заклад, што на сваім старым аўтамабілі праедзе „задпім ходам" 1000 кіламетраў. Ён ажыццявіў сваю задуму. Выйгрыш склаў 600 долараў. Паліцэйскія штрафы абышліся пераможцу ў... 1000 долараў.




*Пераможцаў не судзяць, і яны гэтым часта карыстаюцца.*